23 красавіка 1999 г. пятніца

# НАВІНЫ

№43 (574) кошт свабодны




Нядзеля, 12:30, пл.Якуба Коласа

# «Чарнобыльскі шлях - 99»

Аляксей ШМЯЛЁЎ

**Мінгарвыканкам разгледзеў заяўку групы грамадзянаў аб правядзенні «Чарнобыльскага шляху - 99» і амаль цалкам задаволіў яе. З плошчы Якуба Коласа ў нядзелю, 25 красавіка, у 12:30 пачнецца самая масавая штогадовая акцыя беларускай апазіцыі.**

Арганізацыя мерапрыемства праходзіць на самым высокім узроўні. Утвораны аргкамітэт, у які ўвайшлі вядомыя палітыкі, эканамісты, навукоўцы і літаратары.

Прымаць удзел у мерапрыемстве будуць некалькі соцень людзей з пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС раёнаў. Пацвердзіла намер прыехаць на акцыю Антыфашысцкае Маладзёжнае Дзеянне з Масквы. Самым актыўным чынам збіраюцца ўдзельнічаць у акцыі кіраўнікі ўсіх найбуйнейшых партыяў і грамадскіх рухаў Беларусі. Арганізатары ўскладаюць на акцыю вялікія надзеі. Можна ўспомніць, які рэзананс меў у свеце «Чарнобыльскі шлях - 96», у якім, па розных падліках, прыняло ўдзел ад 70 да 100 тысяч чалавек.

Гэтая акцыя з'яўляецца пікам так званай «Мінскай вясны» і ўжо сталася сімвалам. У ёй прымаюць удзел нават тыя, хто звычайна ігнаруе іншыя палітычныя мерапрыемствы.

Мы ўзялі невялікае інтэрв'ю ў аднаго з арганізатараў акцыі, кіраўніка дружыны БНФ Алеся ЧАХОЛЬСКАГА:

***— Спадар Алесь, наколькі я ведаю, Вы самі — ліквідатар аварыі на ЧАЭС...***

— Так, я на свае вочы бачыў, як гэта адбывалася, як людзей гналі на смерць. З маіх саслужыўцаў шмат каго няма ўжо ў жывых, шмат хто інвалід.

***— А што для Вас, як для ліквідатара, азначае гэтая акцыя, «Чарнобыльскі шлях»?***

— Для мяне кожны год – гэта дзень успамінаў, болю. Гэтым шэсцем мы аддаем даніну памяці ўсім загінулым і пацярпелым, выказваем пратэст дзеянням тагачаснай і цяперашняй улады, бо шмат людзей яшчэ і цяпер пражывае ў забруджаных месцах. На іх забыліся, іх кінулі і даўно нічым не дапамагаюць... Чарнобыльскі шлях — гэта акцыя нашага супольнага пратэсту.

***— А што Вы чакаеце ад «Шляху» ў гэтым годзе?***

— Я б хацеў убачыць там шмат ліквідатараў, шмат перасяленцаў. Усе яны павінны выказаць сваё абурэнне. Колькі льготаў указам прэзідэнта ім скасавалі, пры гэтым у закон ніякіх зменаў не ўнесена! Шмат хто з ліквідатараў па пытанні пазбаўлення льготаў звяртаўся у суд і выйграваў працэсы. Трэба, каб нас усіх разам пачулі. Пачулі боль і крык гэтага народа ад таго, што адбываецца зараз. Нацыя наша папросту вымірае.

***— На якую колькасць народу Вы разлічваеце?***

— Я думаю, што будзе не менш за 20 тысяч чалавек, і шэсце традыцыйна стане самым масавым. ■

## Гарачая лінія

### Саюзныя тусоўкі

Як паведаміў прэс-сакратар міністэрства замежных справаў Мікалай Барысевіч, на 28 красавіка ў Маскве запланаваная сустрэча прэзідэнтаў Беларусі і Расіі. На ёй будуць абмеркаваныя перспектывы развіцця «саюза двух», сітуацыя ў Югаславіі і магчымасці прыняцця СРЮ ў саюз Беларусі і Расіі. Як стала вядома з нашых крыніцаў, Лукашэнка мае намер павесці размову аб кампаніі «Славнефть». На 7—8 траўня запланаваны візіт прэзідэнта Лукашэнкі ў Валгаградскую вобласць.

*Мікола ВАЙТОВІЧ*

### Спытайцеся ў кандыдатаў

25 красавіка ў эфіры беларускай службы радыё «Свабода» прагучыць спецыяльная праграма, прымеркаваная да прэзідэнцкіх выбараў 16 траўня, — «Вашае пытанне Зянону Пазьняку і Міхаілу Чыгіру». Кандыдаты ў прэзідэнты, а таксама іх даверaныя асобы будуць адказваць на пытанні слухачоў. Міхаіл Чыгір па-ранейшаму застаецца за кратамі і не зможа асабіста ўзяць удзел у перадачы. Яго заменіць жонка Юлія Чыгір. Дарэчы, задаць сваё пытанне кандыдатам можаце і вы: па тэлефоне ў Празе **(8 - 10 4202) 2112 3279** ці па факсе **(8 - 10 4202) 2112 3280.**

*Аддзел інфармацыі*

# З памяці не выкрэсліць

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Напярэдадні Радаўніцы ў мемарыяльным комплексе Курапаты, які знаходзіцца пад аховаю дзяржавы, быў здзейснены факт вандалізму — раскапаныя месцы пахаванняў.**

Трэба ўзгадаць, што і раней у Курапатах здзяйсняліся падобныя ўчынкі: тут валілі на зямлю крыжы, збівалі камянямі іконы ці проста высыпалі на магілы горы смецця. У гэты ж раз невядомыя злачынцы раскопвалі магілы.

З шасці раскапаных месцаў пахавання ў трох глыбіня, на якую быў выняты грунт, складае 2 метры, а плошча прыкладна 6 метраў. Відавочна, што працаваў не адзін чалавек, а падрыхтаваная група. На месцах раскопак раскіданыя косці і напаўсгнілыя абутак пахаваных. Была скінутая на зямлю мемарыяльная дошка «Ад народа ЗША народу Беларусі», якая была ўсталяваная 15 студзеня 1994 года падчас прыезду ў Беларусь прэзідэнта ЗША.

На думку сябра Мартыралогу Беларусі Мікалая Крывальцэвіча, які з групай сяброў першы ўбачыў сляды вандалізму, існуе некалькі версіяў здарэння.

Першая з іх злачынства здзейснілі гэтак званыя сталіністы, якім недаспадобы, што гэтае месца рэпрэсіяў — яскравы доказ злачыннасці савецкага рэжыму, які існаваў на Беларусі ў 1937—1941 гадах, калі і адбываліся масавыя расстрэлы. Вядома, што прыхільнікі версіі, што гэтыя расстрэлы праводзіліся фашыстамі падчас вайны, праводзілі яшчэ адно гучнае расследаванне з удзелам генеральнай пракуратуры, але пасля чарговай эксгумацыі гэтая версія зноў праваліліся. Магчыма, такім чынам яны вылiваюць сваю бясcільную злосць.

Другая версія: вандалы — прыхільнікі сатанісцкіх сектаў, якія такім чынам хацелі пaпсаваць вернікам Радаўніцу.

І апошняе. Верагодны... вандаламі могуць быць шукальнікі скарбаў. Як вядома, у пахаваных заставаліся залатыя каронкі, каштоўныя ўпрыгожанні. Застаюцца ў магілах і некаторыя рэчы 30-х гадоў, якія зараз можна лічыць антыкварыятам.

У любым выпадку бачна, што дзейнічалі людзі дасведчаныя, дзе трэба капаць і на якую глыбіню. Злачынцы ведалі пэўную мэту сваіх дзеянняў і правялі даволі цяжкую працу.

Група грамадзянаў, сябраў Мартыралогу, падала заяву ў пракуратуру з патрабаваннем узбудзіць пра факце вандалізму крымінальную справу. ■



Фота REX/ProMedia

Чалавечыя косці з рэшткамі ботаў, што былі выкапаныя невядомымі 18-19 красавіка з магілаў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў у Курапатах. Здымак зроблены 22 красавіка

## НАДВОР'Е




24 красавіка па **Гродзенскай** і **Брэсцкай** абласцях — воблачнае з праясненнямі надвор'е, па большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, вецер паўднёва-ўсходні, 4—9 м/сек. 25 красавіка месцамі кароткачасовыя дажджы. Па **Мінскай** і **Гомельскай** абласцях 24 красавіка воблачна з праясненнямі, часам дажджы, вецер паўднёва-ўсходні, 4—9 м/сек. У нядзелю, 25 красавіка, месцамі кароткачасовыя дажджы. У суботу па **Віцебскай** і **Магілёўскай** абласцях воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам дажджы, вецер паўднёва-ўсходні, 4—9 м/сек. Тэмпература паветра 11—16 градусаў. У нядзелю надвор'е істотна не зменіцца. **Неспрыяльныя дні — 25, 27 красавіка.**

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**385 000**

## СУДОВЫ ПРАЦЭС

# Суд слухае пра замах на прэзідэнта

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ, Віка ТУРАВА

**У Вярхоўным судзе Беларусі ў сераду пачаўся працэс па крымінальнай справе аб забойстве Яўгена Мікалуцкага, старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю па Магілёўскай вобласці, дэпутата Нацыянальнага сходу і асабістага сябра Аляксандра Лукашэнкі.**

Забойства адбылося ўвосень 1997 года ў выніку выбуху радыёкіруемага выбуховага прыстасавання ў пад'ездзе дома, дзе жыў Мікалуцкі.

Працэс праходзіць за зачыненымі дзвярыма ў сувязі з тым, што ў матэрыялах справы ёсць звесткі, якія ўтрымліваюць дзяржаўную тайну. Па словах следчых, яны нават валодаюць доказамі падрыхтоўкі абвінавачваемымі тэракта ў адносінах да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Вядома, што ў трох падазраваемых жыхароў Магілёва была знойдзеная вялікая колькасць зброі, якую яны трымалі ў схованках, а таксама бланкі пасведчанняў, клішэ і пячаткі розных дзяржаўных органаў. Чацвёрты, мяркуемы кіраўнік гэтай групы, загінуў падчас следства ў камеры папярэдняга зняволення пры дзіўных абставінах – нібыта павесіўся на нарах.

Па словах следчага, у сваёй дзейнасці члены групы выкарыстоўвалі прыстасаванні для падслухоўвання і іншую спецтэхніку, якая знаходзіцца на ўзбраенні ў спецыяльных атрадах праваахоўных органаў рэспублікі.

Цяжка сказаць, наколькі важкія доказы прывядзе следства, каб абгрунтаваць сваю тэорыю. На жаль, ніякай інфармацыі з судовага пасяджэння пакуль атрымаць не ўдалося. Абодва абаронцы, Юрый Пацёмкін і Аляксандр Назараў, упарта маўчаць, самі падсудныя знаходзяцца за кратамі «Валадаркі», а на працэс іх прывозяць у спецыяльнай машыне пад узброенай аховай. Зразумела, што ні ад суддзяў, ні ад пракурора таксама ніякіх звестак не возьмеш. Больш за на працэс ніхто не дапушчаны. Не атрымалі доступу нават уладальнікі спецыяльных мандатаў, прадстаўнікі АБСЕ ў Беларусі Крыстафер Паніко і Надзея Дударава (што з'яўляецца грубым парушэннем міжнародных судовых нормаў). Падсуднаму Радзікоўскаму адмоўлена ў ягонай просьбе аб прадастаўленні яму грамадскага абаронцы з Беларускага Хельсінкскага камітэта.

Відавочна, што ўлады вельмі не хочуць, каб падрабязнасці працэсу, што праходзіць у сценах Вярхоўнага суда, сталі вядомыя ў шырокіх колах грамадства. Мяркуецца, што судовыя слуханні працягнуцца больш за месяц – матэрыялы крымінальнай справы налічваюць 40 тамоў. ■



ПЯТНІЦА з Мікалаем ХАЛЕЗІНЫМ

## Мысли, навеянные футболом

Только что, едва не получив сердечный приступ, досмотрел до конца футбольный матч «Динамо» – «Бавария». Проиграли киевляне... А украинцы выиграли. Такой вот парадоксик! Вроде горевать вся Украина должна, а она ликует. И есть от чего: симпатичные ребята, красивая игра, радость на лицах. Героический выход динамовцев в полуфинал Лиги чемпионов достоин бронзовых бюстов на родине. Мне опять захотелось хоть на денек стать украинцем. Опять потому, что уже хотелось в 1975-м, когда киевляне выиграли Суперкубок у той же «Баварии».

Помню, как меня распирала гордость в 1982-м, когда я, будучи рядовым Советской армии, свысока смотрел на москвичей, киевлян, ереванцев и тбилисцев. Тогда, видимо, они жалели, что не родились белорусами и не могут разделить со мной радость победы минского «Динамо» в чемпионате СССР.

Сегодня все далеко не так. Сегодня нам нечем гордиться. Разве что президентом. Он у нас теперь отдувается за футболистов, хоккеистов, теннисистов, пловцов и бегунов. Результатами, правда, пока не блещет, но зато старается. А старание в спорте - это главное. Еще пять-шесть лет упорных тренировок – и результаты пойдут: скольжение улучшится, гребок усилится, бросок со средней дистанции пойдет, мазь к лыжам для асфальта подберем. Но это потом. А сейчас?

Сейчас у нас в футболе полный БАТЭ с МПКЦ. И никаких перспектив. Да и какие могут быть перспективы, когда у команд такие названия? И к тому же у одного тренер на всех – все тот же президент. Если как молодой спортсмен он достаточно перспективен, то как тренер... В Нагано как дал сборной по хоккею установку, так она в финальной части ни одного матча не выиграла. Начал футбол в стране курировать – от игроков теперь мяч отскакивает, как от платяных шкафов. Теннисистки, которыми мы гордиться пытались, «дунули» пятому составу сборной Чехии.

А еще наш Главный тренер руководит экономикой, внешней политикой, финансами, образованием, торговлей и здравоохранением. С тем же результатом.

Так может, он еще молод для тренерской работы? Или Бог таланта не дал? Может быть. Но лично мне от этого не легче. Также, как и всем остальным болельщикам.

# Тамара Віннікава дагэтуль у вышуку

Алесь ПАЎЛОВІЧ

Прайшло больш за два тыдні, як улады абвясцілі, што з-пад варты збегла Тамара Віннікава — былая старшыня Нацыянальнага банка Беларусі, якая была арыштаваная ў студзені 1997 года, а са снежня таго ж года знаходзілася пад хатнім арыштам на сваёй мінскай кватэры. Паводле інфармацыі з пракуратуры краіны і міністэрства ўнутраных справаў, Віннікава дагэтуль не знойдзеная і па-ранейшаму застаецца ў вышуку, у пракуратуры вядзецца следства па факце яе знікнення.

Дарэчы, больш нічога ні ў пракуратуры, ні ў міліцыі даведацца не ўдаецца. Справа Віннікавай застаецца таямніцай, хоць на сённяшні дзень няма больш папулярнай тэмы для гутаркі, чым гэтыя дзіўныя «ўцёкі». З прычыны адсутнасці інфармацыі пачынаюць цыркуляваць самыя розныя згадкі. НАВІНЫ ўжо знаёмілі сваіх чытачоў з некаторымі з іх. Мы пісалі пра магчымую расправу з Віннікавай крымінальных альбо дзяржаўных сілавых структураў, але не выключалі і сапраўдны пабег, арганізаваны добразычліўцамі Тамары Дзмітрыеўны. У апошні час у друку з'явіліся новыя версіі. Напрыклад, кажуць, што ўлады на самой справе адпусцілі былую банкірку за немалыя грошы. Ці што яна памерла звычайнай смерцю, і ўлады вымушаныя гуляць ва «ўцёкі», бо ніхто ўсё роўна не паверыць у натуральны канец былой арыштанткі. Аддадзім належнае фантазіі аўтараў гэтых версіяў, а таксама заўважым, што яны аказаліся вельмі да часу, улічваючы тое, што імідж нашых уладаў у сувязі з гэтай гісторыяй пагоршыўся. І ўсё ж адзначым яшчэ раз, што не з'явілася ніводнага доказу на карысць хаця б нейкай версіі. Тамара Віннікава не знойдзеная, і шукаюць яе па-ранейшаму не вельмі актыўна. ■

# Лукашенко и Ельцин никак не разделят нефтяной «фонтан»

Вика ТУРОВА

**Беларусь может лишиться гарантированных поставок российской нефти на Новополоцкий и Мозырский нефтеперерабатывающие заводы в случае создания в России нефтяного холдинга. Предполагается, что новая государственная компания будет создана на базе «Роснефти», «ОНАКО» и белорусско-российской компании «Славнефть».**

В настоящее время республика имеет блокирующий пакет акций в «Славнефти». В случае присоединения компании к холдингу доля Беларуси в уставном капитале холдинга составит 1,27%, и республика фактически не сможет наложить «вето» ни на одно решение.

Белорусское правительство предлагает российской стороне сохранить российско-белорусское акционерное общество «Славнефть» в качестве самостоятельной компании, а также не изменять статус Мозырского дочернего предприятия. Кроме того, Беларусь ставит условие перед Россией по обеспечению поставок нефти на Новополоцкий и Мозырский НПЗ в объеме не менее 15 млн. тонн ежегодно в течение 20 лет.

В случае отказа российской стороны от принятия условий Беларуси, республика рассмотрит вопрос об обмене пакета акций белорусской стороны в ОАО «Славнефть» на акции ОАО «Мозырский НПЗ». После обмена доля Беларуси в уставном капитале завода превысит 70%, и будет возможность продать акции Мозырского НПЗ инвесторам, прежде всего поставщикам нефти. В крайнем случае, Беларусь просто национализирует нефтеперерабатывающий завод в Мозыре. О чем Сергей Линг недвусмысленно заявил на состоявшемся в Минске заседании Исполнительного комитета Союза Беларуси и России. ■

# ТБМ набірае аўтарытэт

Алесь ГУРЫНОВІЧ

16 красавіка ў Мінску прайшоў VI з'езд Таварыства беларускай мовы. На яго было вылучана каля 300 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Беларусі, а таксама з Расіі, Прыбалтыкі і іншых краінаў. У структурах ТБМ зараз налічваецца каля 15 тысяч чалавек. Зараз гэта самая масавая арганізацыя ў Беларусі.

На з'ездзе быў старшыня ВС 13-га склікання Сямён Шарэцкі, прысутнічалі прэзідэнцкія ўрадаўцы Падгайны, Стражаў і Пашкевіч, якія выступалі на беларускай мове. На з'ездзе гучалі прыкрыя прыклады дыскрымінацыі беларускай мовы. Напрыклад, спн.Вользе Кузьміч у царкве адмовілі ў памінанні на беларускай мове яе бацькі, які ўсё свядомае жыццё змагаўся за родную мову.

Генадзь Бураўкін абвясціў на з'ездзе аб сваім жаданні пакінуць пасаду старшыні ТБМ. Новым старшынёй ТБМ быў абраны Алег Трусаў.

З'езд накіраваў прывітальныя тэлеграмы Васілю Быкаву і Міхаілу Чыгіру, прыняў заяву і пастанову ў абарону беларускай мовы. ■

## Жытнюю спрабавалі пераўтварыць у Ржаную

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

У Навагрудку спяшаюцца аб'яднацца з Расіяй. Камунальная служба за вельмі хуткі час замяніла ўсе вулічныя шыльдачкі, а тыя з іх, якія маглі быць незразумелыя рускаму воку, пераклалі. І такая пачалася бязладзіца! Паштальёны не ведалі, куды несці лісты і газеты, газаўшчыкі блыталі адрасы, калі прывозілі новыя балоны з палівам.

Асабліва абураліся жыхары вуліцы Жытняй, якую інтэгратары з ЖРЭУ перайменавалі ў «Ржаную». Яны дайшлі да ўладаў, якія вырашылі, што камунальнікі занадта паспяшаліся з русіфікацыяй, і справядлівасць была адноўленая. У жыхароў вуліцы афіцыйна папрасілі прабачэння і паабяцалі выправіць памылку. Цікава, што наконт усяго здарэння ўладамі было праведзенае разбіральніцтва, але яны цьмяна паведамілі жыхарам горада, што нібыта «прычыну перайменавання вуліцаў высветліць не ўдалося». Праўда, начальніка камунальнай службы замянілі іншым. ■

## ФОТАФАКТ



**Трансвестыты патрабуюць свабоды.**

Беларускія геі і лесбіянкі правялі ў панядзелак у Мінску пікет супраць парушэння ўладамі іхніх правоў. Прадстаўнікі сэксменшасцяў патрабавалі неадкладнай рэгістрацыі грамадскай арганізацыі геяў і лесбіянак у мінюсце, а таксама выказвалі абурэнне негатыўным стаўленнем да гомасексуалістаў духавенства і вернікаў Рускай праваслаўнай царквы.

## Цытата нумара

***Сегодня оппозиция боится досрочных выборов. Если бы они состоялись — ушли бы в сторону все разговоры о легитимности.***

*Анатолий МАЛОФЕЕВ, пресс-конференция 22 апреля 1999г.*

# Цынічныя планы мілітарыстаў

**Прадстаўнікі грамадскіх і палітычных арганізацыяў горада Гродна выступілі з заявай супраць мяркуемага падпісання ў Гродне дамовы пра саюз Расіі, Беларусі і Югаславіі.**

«Мы добра памятаем, як кіраўніцтва БССР хавала праўду пра Чарнобыль, як людзей запэўнівалі, што ім нічога не пагражае, — пішуць аўтары заявы. — Толькі пасля атрымання незалежнасці Беларусі свет даведаўся пра сапраўдныя наступствы катастрофы. Сітуацыя пагоршылася пасля прыходу да ўлады рэжыму Аляксандра Лукашэнкі. Ён зноў вярнуў на высокія пасады кіраўнікоў часоў БССР. Растаптаў Канстытуцыю, на якой прысягаў. Знішчыў на Беларусі дэмакратычныя інстытуты. Давёў да міжнароднай ізаляцыі краіну. Зноў беларусы засталіся сам-насам з чарнобыльскай бядой.

Каб пазбегнуць адказнасці, Лукашэнка імкнецца ўцягнуць шматпакутную Беларусь у ядзернае супрацьстаянне з усім цывілізаваным светам. Гэта можа прывесці да новай жахлівай трагедыі. Разам са сваімі расійскімі хаўруснікамі, якім зацінае вочы імперская прагнасць, рэжым Лукашэнкі імкнецца знішчыць незалежнасць Беларусі.

На пачатак траўня прызначана падпісанне ў Гродне так званай «саюзнай дамовы». Тое, што гэта можа здарыцца ў нашым горадзе, з'яўляецца звышцынізмам і абразай нашай нацыянальнай годнасці. Менавіта ў Гродне 205 гадоў таму пад прыцэлам расійскіх гармат адбыўся апошні Сойм Рэчы Паспалітай, які зацвердзіў акупацыю беларускіх земляў Расійскай імперыяй.

Мы лічым, што далучэнне Беларусі да Расіі нясе нашай краіне і ўсяму свету небяспеку фізічнага знішчэння. Ужо неаднаразова з дзяржаўных трыбунаў Мінска і Масквы гучалі словы пра вяртанне на Беларусь ядзернай зброі. Расійскія «чырвона-карычневыя» і прэзідэнт Беларусі выступаюць за ваенны саюз з Югаславіяй, які непазбежна паставіць свет на мяжу Трэцяй сусветнай вайны.

Мы рашуча пратэстуем супраць прыезду ў наш горад расійскіх, беларускіх і югаслаўскіх мілітарыстаў-«інтэграстаў».

Мы звяртаемся да жыхароў Гродна. Сёння, як ніколі, на нас ляжыць адказнасць за лёс Беларусі і будучыню Еўропы. Не дапусцім, каб Гродна стаў месцам пахавання надзеяў народаў на мірнае і заможнае жыццё! Усімі магчымымі законнымі сродкамі спынім злачынныя намеры і ўратуем свет ад катастрофы». ■

# Замест Карпенкі – Грыб

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У сераду адбылося паседжанне «ценявога ўрада» Беларусі — Нацыянальнага выканаўчага камітэта. Да апошняга часу на чале НВК стаяў Генадзь Карпенка. Таму на паседжанне было вынесенае пытанне аб тым, хто цяпер зойме пасаду памерлага Генадзя Дзмітрыевіча.

Як паведамілі нам у Нацыянальным выканаўчым камітэце, пытанне аб прызначэнні новага старшыні НВК мусіць вырашаць Вярхоўны Савет. А пакуль выконваючым абавязкі старшыні быў прызначаны экс-спікер ВС 12-га склікання Мечыслаў Грыб, які да гэтага займаў пасаду намесніка старшыні НВК. ■

## СУДЫ

### КДБ ігнаруе трэцюю ўладу

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У сераду павінен быў адбыцца суд па іску члена Беларускага Хельсінкскага Камітэта Таццяны Ляшчынскай да ўпраўлення КДБ па горадзе Мінску па факце вынясення ёй папярэджання ў сакавіку гэтага года за ўдзел у кампаніі па выбарах прэзідэнта. Абараняць Таццяну Ляшчынскую ўзяўся вядомы адвакат Гары Паганяйла, які меў спадзяванні на паспяховы сыход працэсу, але, на жаль, ні ў прызначаны час, ні пазней прадстаўнікі КДБ у суд Цэнтральнага раёна, дзе павінен быў адбыцца працэс, не з'явіліся, што дало падставу адкласці паседжанне на 4 траўня. ■

### «Хартыстаў» асудзілі

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У судзе Савецкага раёна горада Мінска адбылося слуханне па справе актывістаў Хартыі'97 Зміцера Бандарэнкі і Валерыя Косткі за арганізаванае імі 27 лютага антыфашысцкае шэсце. Нягледзячы на абсурднасць абвінавачванняў і тое, што абаронца падсудных даказаў немагчымасць правядзення калоны толькі па ходніках, абодвух прызналі вінаватымі і прызначылі штрафы ў памеры 80 млн. рублёў для Бандарэнкі і 75 млн. для Косткі. ■

МНЕНИЕ СТРАНЫ

# Подкоп

## Кандидат в президенты от оппозиции может увести из-под носа президента полстраны

**Николай ХАЛЕЗИН**

**Впервые в этом году ведущая социологическая служба страны — лаборатория «НОВАК» Андрея ВАРДАМАЦКОГО — провела исследование, в котором изучались шансы кандидатов от оппозиции на президентский пост. Полученные результаты озадачили экспертов-политологов. Выяснилось, что в условиях реального выбора из двух кандидатов перевес ныне действующего президента не является столь существенным, как это подают государственные СМИ.**

Вопрос «Если бы во второй тур президентских выборов вышли следующие кандидаты, то за кого из них вы бы проголосовали?» максимально приближен к реальным выборам. Отвечая на подобный вопрос, человек стоит перед дилеммой, которая возникает у него лишь тогда, когда он находится в кабинке для голосования во время проведения настоящих выборов.

Кандидатуры, внесенные в анкеты для опроса, были выбраны не случайно. Каждый из этих политиков в свое время декларировал свое желание стать президентом Беларуси: Александр Лукашенко, являющийся легитимным главой государства до 20 июля этого года, совсем недавно повторил свое намерение баллотироваться на следующих президентских выборах; Михаил Чигирь и Зенон Пазьняк являются кандидатами на президентских выборах 16 мая, а покойный Геннадий Карпенко был единым кандидатом в президенты от Объединенной гражданской партии. Данный опрос проводился в конце марта, когда Геннадий Дмитриевич еще был жив.

Просматривая цифры парных рейтингов, можно сделать однозначный вывод — если бы в Беларуси в ближайшее время проходили президентские выборы по демократической процедуре, то их результат предсказать было бы невозможно. Безусловно, на сегодняшний день действующий президент опережает всех остальных кандидатов. Но это лишь на сегодняшний день. А завтра?

Всего полтора месяца прошло с того времени, как Михаил Чигирь, вернувшись из России в Беларусь, занялся собственной раскруткой. Результат превзошел все ожидания — индекс доверия Чигирю среди жителей Беларуси моментально поднялся с 0,8% до 7,7% и вышел на третье место после Лукашенко и Линга. А в парных рейтингах премьер-министр в отставке опередил всех кандидатов, кроме ныне действующего президента. Но, как говорится, лиха беда начало.

На сегодняшний день за Чигиря во втором туре выборов готовы проголосовать 20% белорусов, а по Минску эта цифра превышает 24%. Если вспомнить путь к вершине политического Олимпа президента России Бориса Ельцина, то он стартовал с отметки в 5%. Для того, чтобы привести Ельцина к посту президента, были привлечены огромные финансовые и человеческие ресурсы. Таких ресурсов у Чигиря нет. Но подобные объемы финансирования не очень и нужны. Сегодня экс-премьер находится в таком положении, когда его начнут любить за то, что он страдает. Подобным страдальцем пять лет назад был кандидат в президенты Александр Лукашенко, «подстреленный» под Лиозно. Правда, против него не выдвигали тогда обвинений в финансовых махинациях, которые выдвигают сегодня против Чигиря.

Эти обвинения достаточно смехотворны, и белорусские граждане уже задают себе вопрос: «почему же президент не дал указание арестовать Чигиря, когда тот был премьер-министром, если он совершал свои «махинации» на посту руководителя банка?» На этот вопрос нынешней власти ответить нечего. А, следовательно, рейтинг Михаила Чигиря, сидящего в тюрьме, будет расти. К этому располагает и ухудшение экономической ситуации.

Что касается кандидата на президентский пост от Белорусского Народного Фронта Зенона Пазьняка, то его рейтинг не позволяет утверждать, что лидер БНФ имеет хоть какие-то шансы занять главный кабинет в стране. Эмиграция Пазьняка привела к потере авторитета среди избирателей и разочарованию не только в лидере БНФ, но и в возглавляемой им политической структуре.

К сожалению, кандидат от Объединенной гражданской партии Геннадий Карпенко ушел из жизни, и рассматривать его шансы на пост главы государства сегодня цинично. Но позволю себе заметить, что разрыв между ним и Лукашенко был меньше, чем отрыв нынешнего президента от Чигиря и, тем более, Пазьняка. Можно предположить, что часть тех, кто хотел видеть президентом Карпенко, перейдут в лагерь сторонников экс-премьера. Хотя бы потому, что они оба декларировали схожие принципы построения государства.

Как минимум 20,8% жителей Беларуси и 23,8% минчан не видят среди четырех кандидатов своего. То есть и Лукашенко для них уже чужой. А значит, «политическая поляна» открыта для появления новых фигур, способных забрать неопределившуюся часть электората. Появись какой-нибудь «чертик из табакерки», которого признает в качестве лидера оппозиция и который не отпугнет излишней «националистичностью» неопределившийся электорат, и под лукашенковским креслом в качестве подпорки останется в лучшем случае треть от всех выборщиков. Ведь уже сегодня, если свести в один электораты Чигиря и Карпенко, то в сумме это полстраны.

Следует обратить внимание еще на один нюанс. Михаил Чигирь практически не использовал политические технологии, способные радикально изменить расстановку сил на электоральном поле. Большинство из имевшихся ресурсов было брошено на достаточно спорный проект «Президентские выборы 16 мая». Команда Чигиря, если можно всерьез говорить о ее существовании, забыла о том, что уровень популярности повышается не от одной декларации готовности занять пост президента. На рост рейтинга влияет как целый комплекс поступков и высказываний самого политика, так и имидж его команды.

Экс-премьер сделал ставку на группу, сформированную из представителей ОГП и политиков, ранее подвизавшихся в штабе Геннадия Карпенко, а информационные ресурсы были ограничены тремя-четырьмя независимыми изданиями, чей общий тираж едва превышает сто тысяч. А массовые теле- и радиоканалы оставались недоступными. Можно только предполагать, каков сегодня был бы рейтинг экс-премьера, занимайся его продвижением серьезная группа имиджмейкеров, имеющая доступ ко всему спектру средств массовой информации.

Таким образом, как бы ни изгалялись государственные СМИ над независимой прессой и молодой оппозицией и как бы сама оппозиция ни бичевала себя и ни посыпала голову пеплом, сегодня можно говорить о том, что за последние несколько лет доселе сплоченный и накрепко зацементированный лукашенковской идеологией электорат оказался существенно размытым. Вот такой вот тихий подкоп под президентский трон совершили демократы. И это, безусловно, заслуга всех, кто работал против нынешней власти. Черпать человеческие ресурсы Лукашенко неоткуда в отличие от оппозиционных политиков, в чьем лагере народ будет прибывать. Резко, но ненадолго, поднять рейтинг Лукашенко можно. Например, если Александр Григорьевич спасет на пожаре ребенка или слетает в космос. И то, и другое осуществить можно, но не нужно, так как демократически настроенный электорат базирует свою позицию на устойчивых принципах и подобные фортели на него уже, увы, не подействуют. ■






# Сяргееў інтэграваўся ў беларускае войска

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

**У Мінску знаходзіцца міністр абароны Расіі маршал Ігар Сяргееў. Мэта візіту – сустрэчы з Лукашэнкам, прэм'ерам Лінгам і ўдзел у сумеснай калегіі міністэрстваў абароны Беларусі і Расіі. Міністр таксама наведаў расійскую базу ранняга сачэння супрацьпаветранай абароны пад Баранавічамі.**

Напярэдадні візіту Ігара Сяргеева з'явілася інфармацыя аб стварэнні супольнай расійска-беларускай вайсковай групоўкі. Што за вайсковае злучэнне збіраюцца ствараць Мінск і Масква, а таксама дзе яно будзе размешчанае — пакуль застаецца невядомым. Не выключана, што размова ідзе аб размяшчэнні ў Беларусі расійскіх ваенных базаў. Па некаторых звестках, нядаўна прадстаўнікі міністэрстваў абароны абедзвюх дзяржаваў з гэтай мэтай наведалі месца былой базы расійскай стратэгічнай авіяцыі пад Быхавам і некаторыя іншыя аб'екты. Па прылёце ў Мінск міністр Сяргееў у гутарцы з журналістамі інфармацыю аб стварэнні вайсковай групоўкі не абверг і зазначыў, што будзе займацца з Лукашэнкам «пытаннямі бяспекі Расіі і Беларусі ў сувязі з тым «беспределом», які цяпер адбываецца ў свеце». Натуральна, што візіт Ігара Сяргеева цесна звязаны з вайной у Югаславіі і з'яўляецца адным з этапаў ваенных кансультацыяў паміж кіраўніцтвам Беларусі і Расіі, аб якіх не раз гаварыў Лукашэнка пасля пачатку баявых дзеянняў на Балканах. Дарэчы, нядаўна беларускі прэзідэнт паабяцаў сваім вайскоўцам, што ў самы бліжэйшы час у беларускай арміі з'явіцца самае сучаснае ўзбраенне. Праўда, адкуль яно возьмецца і за якія грошы, Аляксандр Лукашэнка не патлумачыў, але відавочна і тое, што, акрамя Расіі, пастаўляць у Беларусь зброю проста няма каму. Заслону таямнічасці над пастаўкамі Мінску ўзбраенняў трохі прыадкрыў маршал Сяргееў. Паводле ягоных словаў, ужо фактычна вырашана пытанне аб зборцы ў Беларусі сучасных знішчальнікаў СУ-37. У Беларусі ёсць толькі два заводы, якія могуць выпускаць такую прадукцыю — у Оршы і Баранавічах. Аднак спецыялісты сцвярджаюць, што наладзіць падобную вытворчасць у кароткі тэрмін не ўдасца. Нават дзеля таго, каб пераналадзіць заводскія магутнасці для вырабу запасных частак да знішчальнікаў, патрэбна як мінімум паўтара-два гады, а для пераходу да зборкі самалётаў неабходна не менш пяці гадоў.

Учора расійскі міністр абароны сустрэўся з беларускім прэм'ерам Сяргеем Лінгам, а таксама пабываў на расійскай радыёлакацыйнай станцыі, якую Аляксандр Лукашэнка называе «паветраным шчытом нашага саюза». А сёння падчас сустрэчаў з беларускім прэзідэнтам Сяргееў будзе вырашаць больш глабальныя пытанні сумеснай абароны. ■

# Беларуская палітгадзіна ў ЗША і Еўропе

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**На пачатку наступнага тыдня пра Беларусь будуць гаварыць у Вашынгтоне ў амерыканскім Кангрэсе, а таксама ў Страсбургу ў Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы.**

Слуханні па Беларусі ў Вашынгтоне арганізаваныя Камісіяй па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, якую складаюць прадстаўнікі абедзвюх палатаў амерыканскага парламента. Прыняць удзел у гэтым паседжанні Кангрэс ЗША запрасіў каардынатара Хартыі'97 па міжнародных сувязях Андрэя Саннікава, кіраўніка групы АБСЕ Ханса-Георга Віка і пасла ЗША ў Беларусі Дэніэла Спекхарда. Дарэчы, Андрэй Саннікаў і Ханс-Георг Вік ужо знаходзяцца ў Вашынгтоне. Аб праграме кіраўніка групы АБСЕ нам нічога не паведамілі ў мінскай штаб-кватэры КНГ. Тым часам Андрэй Саннікаў сустрэўся з першым намеснікам дзяржсакратара ЗША Стробам Тэлбатам і абмеркаваў апошнія падзеі, звязаныя з нашай краінай, у тым ліку палітычныя манёўры па ўступленні Югаславіі ў так званы саюз Беларусі і Расіі. Размова ішла таксама пра прэзідэнцкія выбары, прызначаныя апазіцыяй на 16 траўня. На думку спадара Тэлбата, «выбары паказалі, у якім канстытуцыйным і палітычным тупіку апынулася Беларусь». Ён заклікаў беларускія ўлады ініцыяваць дыялог з апазіцыяй і забяспечыць умовы для правядзення свабодных выбараў, вызваліць з турмы кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра і іншых палітзняволеных.

Зараз Андрэй Саннікаў рыхтуецца да сустрэчы з кангрэсменамі, каб распавесці пра парушэнні правоў чалавека і дэмакратычных прынцыпаў у нашай краіне. Дарэчы, гэтае пытанне для Кангрэса не новае. Выступаючы ў лютым у амерыканскай палаце прадстаўнікоў, Крыстафер Сміт адзначыў, што калі да 21 ліпеня гэтага года прэзідэнт Лукашэнка не правядзе справядлівыя і свабодныя выбары, то ягоная легітымнасць будзе падарваная. Вярхоўны Савет 13-га склікання і Канстытуцыя 1994 года застаюцца адзінай легітымнай уладай. Амерыканцы адчулі на сабе, як ставяцца беларускія ўлады да дэмакратычных каштоўнасцяў. У ліпені мінулага года беларускія ўлады выдварылі пасла ЗША Дэніэла Спекхарда з яго рэзідэнцыі ў комплексе «Драздзы». У знак пратэсту кіраўнік амерыканскай дыпмісіі пакінуў Беларусь і не вярнуўся разам з пасламі еўрапейскіх краінаў.

На 27 красавіка ў Страсбургу ў Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы запланаваная дыскусія па сітуацыі ў Беларусі, арганізаваная Камісіяй па палітычных пытаннях. На паседжанне запрошаныя дакладчык па Беларусі Роберт Антрэтэр, спадар Вік, прадстаўнікі лукашэнкаўскага «парламента» (Уладзімір Канаплёў, Леанід Глухоўскі, Аляксандр Шпілеўскі, Мікалай Чаргінец) і Вярхоўнага Савета 13-га склікання (Анатоль Лябедзька, Сяргей Калякін, Мечыслаў Грыб). Дэлегацыя палаты збіраецца знайсці кампраміс, каб вярнуць апазіцыянераў да ўдзелу ў палітычным жыцці краіны.

У пасланні да свайго парламента прэзідэнт Лукашэнка заявіў, што ёсць краіна, якая ўжо падарвала асновы еўра, і гэтага ніхто не зразумеў, акрамя яго і нямецкага пасла ў Беларусі. Ці зможа прэзідэнт Лукашэнка натравіць Еўропу на ЗША і ўтрымацца ля ўлады? ■

## Воскресенье • 2 мая



**07.00** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Док. фильм режиссера Л.Гедравичюса «И зацветет Сад...»
**08.45** Потребительская корзина.
**09.00, 15.45** Новости.
**09.11** Навстречу.
**09.51** Видеофильм «Европейские Дни Наследия в Республики Беларусь» («Белвидеоцентр»).
**10.05** Туробъектив.
**10.30** «Все нормально, мама!»
**11.05** «Я вернулся навсегда». Телеочерк о первой выставке произведений Марка Шагала.
**11.40** Арсенал. Программа об армии.
**12.05** Международные спортивные новости.
**12.25** Сделано в Беларуси. Акционерное общество «Беллакт».
**12.40** Марсово поле. Музыкально-развлекательная программа.
**12.55** Новые имена.
**13.05** Сериал по выходным. **«Династия-2. Семья Колби»**.
**13.50** Сельчане. Гомельская область.
**14.20** Золотые ключи.
**14.55** Хоккей. Чемпионат мира. Беларусь – Россия.
**17.45** «На волне взаимопонимания».
**18.25** «Зорная ростань». Телеконкурс молодых артистов эстрады.
**18.55** Теленавигатор.
**19.15** Новые имена.
**19.20** Стадион.
**19.40** Колыбельная.
**20.00** Резонанс.
**20.50** Ток-шоу «Карамболь» с участием Лаймы Вайкуле.
**21.25** «Синема». Худ. фильм по роману Ф.Кафки **«Процесс»**.
**23.20** Премьера песни.
**23.35** Автопарк.
**23.45** Бархатный сезон.
**00.20** Чемпионат мира по автогонкам «Формула-1».



**6.55** Приключения графа Монте-Кристо в фильме **«Узник замка Иф»**. Фильм 1-й. 1-я серия.
**8.05** Мультфильм.
**8.25** На Чемпионате мира по хоккею.
**9.00, 14.00** Новости.
**9.15** Пока все дома.
**9.50** «Непутевые заметки».
**10.05** Утренняя звезда.
**11.00** Армейский магазин.
**11.30** Играй, гармонь любимая!
**12.00** Худ. фильм **«Освободите Вилли - 2»**.
**13.35** «По следам бременских музыкантов». Мультфильм.
**14.15** В мире животных.
**14.55** Хоккей. Сборная России - Сборная Беларуси.
**16.30** Новости спорта.
**17.30** «Ералаш».
**17.40** Легендарный фильм **«Великолепная семерка»**.
**20.00** Время.
**20.35** КВН-99.
**22.40** Коллекция Первого канала. Танец жизни в фильме **«Бал»**.
**0.35** Программа передач.




**7.00** Мультфильмы.
**7.30** Прогноз погоды.
**7.35** 50х50: Буду звездой!
**8.30** Мультфильмы.
**9.00** Доброе утро, страна.
**9.35** Сам себе режиссер.
**10.00** «Сто к одному». Телеигра.
**10.45** «Вершки и корешки». Мультфильм.
**11.00** Русское лото.
**11.40** Мир книг с Л.Куравлевым.
**11.55** Майкл Йорк и Бен Кингсли в телесериале **«Тайна Сахары»**.
**13.00** Вести.
**13.30** Неделя власти.
**14.00** «Реченька-речушка». Юбилейный творческий вечер В.Девятого.
**15.40** Алексей Жарков и Леонид Ярмольник в авантюрной комедии **«Вальс золотых тельцов»**.
**16.55** Футбол. Чемпионат России. «Торпедо» (Москва) - «Алания». Трансляция из Владикавказа.
**19.00** Зеркало.
**20.00** «Я приду». Концертная программа, посвященная творчеству Владимира Мигули. Передача из ГЦКЗ «Россия».
**21.45** «К-2» представляет: программа Ивана Дыховичного «Уловка 22».
**22.40** Дежурная часть.
**23.05** Кинозал «К-2». Фильм Паоло и Витторио Тавиани **«Отец-хозяин»** (Италия).
**1.00** Прогноз погоды.



**9.10** «Читая Библию». Новый Завет.
**9.20** Книжный кладезь.
**9.35** **«Огниво»**. Худ. фильм.
**10.55** Консилиум.
**11.20** В.А.Моцарт. «Симфония ля мажор, ч. 4». Исполняет оркестр Государственного Эрмитажа «Санкт-Петербург Камерата».
**11.30** «Экспедиция Чиж». «Воскресенье с пельменями».
**12.00** А.С.Пушкин. «Золотой петушок».
**12.10** **«Два бойца»**. Худ. фильм.
**13.30, 21.00** Новости культуры.
**13.45** «Золотая ветвь». Художник Тимур Новиков.
**14.15** Телесуфлер.
**14.30** «А прошлое кажется сном...» «Прощай СССР-2». Док. фильм.
**15.30** «Знаменитые замки Европы». Уорвик (Англия).
**15.55** Шедевры мирового музыкального театра. Дж. Верди. Опера «Фальстаф». 1-й и 2-й акты.
**17.30** Новости.
**17.35** Опера «Фальстаф». 3-й акт.
**18.30** «ХХ век в кадре и за кадром». «Дорогой мистер Гейбл».
**19.20** Мультфильм.
**19.30** Чудо-сказка.
**19.40** «Русское счастье». Док. фильм.
**20.30** «С потолка». Программа О.Басилашвили.
**21.20** «Культура вне границ». Пианист Д.Мацуев.
**21.50** Мировая синематека. Фильм **«Дом, милый дом»**.
**22.50** Осел и соловей.



**7.00, 9.00, 11.00, 15.00** Сегодня.
**7.15** Наше кино. **«Вратарь»**.
**8.40** «Старый телевизор» вспоминает: «Фитиль».
**9.15** Детский сеанс. Алексей Баталов в фильме **«Три толстяка»**.
**10.45** Мультфильм.
**11.15** Мир кино. Роберт Линдсей в музыкальном фильме **«Берт Ригби, ты дурак»**.
**12.50** Одиссея Романа Карцева.
**14.05** «Арина».
**15.30** Футбол. Чемпионат России. «Спартак» - «Черноморец».
**17.30** Итоги. Предисловие.
**18.05** Наше кино. **«Вор»**.
**20.00** Итоги.
**21.05** Куклы.
**21.20** Мир кино. **«Солдаты удачи»**.
**22.15** Магия Д.Копперфильда. «В плену привидений».
**23.05** Цвет ночи. Сильвия Кристель в фильме **«Эммануэль»**.




**7.05** Дорожный патруль.
**7.20** Утро продленного дня. Мультфильм «Храбрый олененок».
**7.40** Мультсериал «Сказки братьев Гримм»: «Кот в сапогах». 1-я серия.
**8.05** Сериал **«Неоновый всадник»**.
**9.00** Сериал **«Таинственный остров»**.
**9.25** Диск-канал.
**10.00** «Пальчики оближешь».
**10.25** Канон.
**11.00** Шесть новостей недели.
**11.30** Star старт.
**12.15** «Спасибо за покупку!»
**12.25** Кинотеатр ТВ-6. В.Золотухин в комедии **«Бумбараш»**.
**14.40** «Спасибо за покупку!»
**15.00** «Звезды о звездах»: С праздником 1 Мая!
**15.30** Ток-шоу «Я сама».
**16.35** Катастрофы недели.
**17.30** Дорожный патруль.
**17.45** «Любишь - смотри».
**18.00** «Бис».
**18.30** «Вы - очевидец».
**19.00** «Обозреватель».
**20.00** Кинотеатр ТВ-6. Комедия **«Любовный напиток № 9»**.
**21.50** Наша музыка: В.Леонтьев.
**22.50** Ночной сеанс. М.Йорк в фильме **«Наслаждение»**.




**15.00** Программа Рика Реннера.
**15.30** Сериал **«Семнадцать мгновений весны»**, 5 серия.
**16.45** Арт-мост с Алисой (повтор).
**17.30** Свободный бой.
**18.00** Коллекция 8-го телеканала: SPICE GIRLS.
**19.30** Худ. фильм **«Воришки»**.
**21.15** Вечарніца.
**21.30** Новости «К - видео».
**22.00** Мишель Пиколи в худ. фильме **«Неоткрытые острова»**.

ІДЭАЛОГІЯ

# Роднасныя душы

**Наколькі далёка могуць зайсці панславянскія ідэі Масквы, Мінска і Бялграда, разважае Ян Трэйнар, аглядальнік газеты The Guardian.**

«Расіяне, не палохайцеся, сербы – з вамі» – нахабна сцвярджае лозунг, які нядаўна з'явіўся ў Бялградзе. Лозунг нагадвае старую сербскую прыказку пра вялікасць Сербіі: «Нас і рускіх – трыста мільёнаў». На самой справе, атрымліваецца толькі 160 мільёнаў: 150 мільёнаў рускіх і 10 мільёнаў сербаў, але ці варта славянскім братам лічыць якія тысячы?

Бялградскія лозунгі і жарты паціху губляюць іронію і злосць. Але жартачкі скончыліся, калі большасць апаратчыкаў і апартыністаў у югаслаўскім парламенце – Скупшчыне – сур'ёзна пачалі казаць пра іхнюю адданасць Маці Расіі і добраахвотна прапанавалі адмовіцца ад незалежнасці Югаславіі і далучыцца да саюза Расіі і Беларусі.

Раптам, на мяжы XXI стагоддзя, паветра напоўнілася такімі паняццямі XIX стагоддзя, як Панславізм, Славянскае братэрства і Праваслаўны саюз, якія гуртом і раздробна раздаюцца рэакцыянерамі – як ультраправымі, так і ультралевымі ў Маскве, Мінску і Бялградзе.

Далучэнне Югаславіі да саюза Расіі і Беларусі – параджэнне розуму «чырвона-карычневага» альянса камуністаў і нацыянал-неафашыстаў на чале з спікерам-камуністам расійскай Думы Генадзем Селязнёвым — у Маскве, і з ваенным злачынцам, сербскім віцэ-прэм'ерам і лідэрам радыкальнай партыі Ваіславам Шэшалем – у Бялградзе. Гэты саюз дзіўны яшчэ і таму, што Югаславія нідзе не мяжуе ні з Расіяй, ні з Беларуссю. Апроч таго, саюзная дамова паміж Расіяй і Беларуссю, падпісаная ў красавіку 1997 года, існуе толькі на паперы – нягледзячы на тое, што ідэяй саюза, якую, дарэчы, падтрымлівае расійскі прэм'ер Яўген Прымакоў, трызніў аўтарытарны беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

Фрыдрых Энгельс, Ленін і Ціта, відаць, перавярнуліся б у труне, калі б даведаліся пра тое, што ідэі расійскага панславізму ўжо набліжаюцца да берагоў Адрыятычнага мора. Зрэшты, не толькі яны. У рэвалюцыйным 1848-м, калі ў Празе праходзіў першы панславянскі кангрэс, нямецкі радыкал Энгельс апісаў гэтую падзею як контррэвалюцыю, «інструмент самадзяржаўя і рускага бізуна».

У 1920 годзе, калі каралеўства Югаславія было толькі што створанае, сербскі амбасадар у Маскве плюнуў у твар Леніну, перакананы, што той – вораг панславізму. Раней гэты самы амбасадар быў уцягнуты ў змову з мэтай забіць стваральніка Савецкай дзяржавы. Ціта, стваральнік і першы прэзідэнт пасляваеннай камуністычнай Югаславіі, паспяхова пазбаўляючыся сталінскіх абдымкаў, ганарыўся тым, што ягоная краіна – адзіная славянская камуністычная дзяржава, якая не бярэ ўдзел у Варшаўскім пакце. Як ні дзіўна, але сістэма абароны, створаная Ціта, а таксама югаслаўскія ўзброеныя сілы, якія цяпер адбіваюць натаўскія атакі, першапачаткова прызначаліся для супрацьдзеяння менавіта расійскай агрэсіі. «Ціта ніколі не збіраўся перабягаць да рускіх. Ён ніколі не быў панславістам», — піша біёграф югаслаўскага лідэра.

Слабадан Мілошавіч таксама ніколі не быў славянскім нацыяналістам. Славенцы, харваты, баснійцы і македонцы – таксама славяне. Калі Ціта трымаў іх усіх разам у адной краіне, Мілошавіч зрабіў усё, каб запалохаць ці адштурхнуць іх ад ідэі «Паўднёваславянскага саюза», які ўяўляе сабой Югаславія. Сёння Мілошавіч выстаўляецца як прыхільнік панславізму, але менавіта ён, больш чым яшчэ, нясе адказнасць за распад Югаславіі, амаль ідэальнай федэрацыі і, магчыма, найбольш паспяховага славянскага саюза, які быў некалі створаны.

Уступленне ў NATO трох новых краінаў – былых чальцоў Варшаўскага пакту – пачалося аднначасова з дажджом натаўскіх бомбаў. Для Масквы гэтыя дзве падзеі — гэта публічная абраза. Але сентыментальныя заклікі да славянскай салідарнасці амаль не закранулі 40 мільёнаў палякаў ці 10 мільёнаў чэхаў. Варшава і Прага разглядаюць такіх асобаў, як Лукашэнка, Селязнёў, Зюганаў, Шэшаль і Мілошавіч, як купку прайдзісветаў і не спяшаюцца ўваходзіць у іхні панславянскі клуб.

Прага – радзіма панславізму ва Усходняй Еўропе, горад, дзе Ян Паляцкі наладзіў першы панславянскі кангрэс у 1848 годзе. Але нават нягледзячы на тое, што Мілаш Земан, чэшскі прэм'ер-міністр, крытыкаваў натаўскія бамбардзіроўкі, славянская салідарнасць – гэта ідэалогія, якая на працягу доўгага часу ўспрымалася як звычайны эўфемізм расійскага шавінізму. Апроч таго, палічыўшы свой уласны інтарэс важнейшым за сяброўскае пачуццё, чэхі выйшлі са свайго міні-славянскага саюза са славакамі шэсць гадоў таму.

Калі палякі, чэхі, славакі, харваты, славенцы і баснійцы, якія пішуць лацінкай і, у сваёй асноўнай масе, прытрымліваюцца рымска-каталіцкай веры – пагардліва або насцярожана ставяцца да нацыяналістычных заклікаў з Масквы і Бялграда, то Балгарыя і Македонія – краіны, якія менш змяніліся на заходні лад і карыстаюцца кірыліцай, а таксама вызнаюць разам з сербамі і рускімі праваслаўе, — таксама становяцца скупымі на словы, як толькі размова заходзіць пра славянскае братэрства.

Балгары, якую да 1989 года часам называлі 16-тай савецкай рэспублікай, вельмі не хочацца вяртацца да таго стану рэчаў. Няцяжка здагадацца, чаму. І раней, і цяпер панславізм хутчэй быў не адбіткам прынцыповасці ці вялікадушнасці, а лекам ад адчаю, выкліканым паразамі, няўдачамі і гаркатою, гэта ідэалогія, якая песціць міфы пра ахвярнасць і абяцае помсту за бітвы, прайграныя даўно ці зусім нядаўна – для Расіі гэта «халодная вайна», для сербаў – бітва з туркамі на Косавым полі.

Канфлікт паміж «заходнікамі» і славянафіламі, які вызначыў рускае культурнае і палітычнае жыццё пасля саракавых гадоў XIX стагоддзя, актуальны яшчэ для кожнай сталіцы славянскіх дзяржаваў ва Усходняй Еўропе, дзе «заходнікі» заўсёды заваёўваюць перамогу, бо змагаюцца з заклікамі ўзмацніць аўтарытарызм, ізаляцыянізм і славянскі нацыяналізм. ■

**Падрыхтаваў**
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**




### Славянскія дзяржавы

***Усходнія славяне*** *– этнічныя славяне, а таксама традыцыйная праваслаўная царква, славянская мова і кірыліца:*
Расія (значная колькасць цюркскага і іншага неславянскага насельніцтва з вялікім уплывам мусульманства) – **148 мільёнаў;**
Беларусь (30 працэнтаў каталікі) – **10,5 мільёна;**
Балгарыя (істотная мусульманская абшчына) – **8,2 мільёна;**
Украіна (значны ўплыў уніяцкай і каталіцкай царквы) – **50,1 мільёна.**
***Заходнія славяне-каталікі*** *– этнічныя славяне, славянская мова, рымска-каталіцкая царква, некірылічнае пісьменства:*
Польшча – **38 мільёнаў;**
Харватыя (праваслаўная меншасць) – **4,6 мільёна;**
Славенія – **1,9 мільёна.**
***Заходнія змешаныя славяне*** *– этнічныя славяне, славянская мова, некірылічнае пісьменства, рэлігіі розныя ці няма:*
Чэхія (гістарычная традыцыя пратэстанцтва) – **10,2 мільёна;**
Славакія – **5,3 мільёна;**
Боснія (мусульмане-славяне, сербы, харваты) – **3,3 мільёна.**
***Балканскія славяне – этнічныя славяне, славянская мова, але істотныя неславянскія меншасці і мовы:***
Македонія (істотная меншасць албанцаў) — **2 мільёны;**
Сербія і Чарнагорыя (меншасць албанскіх мусульманаў) – **11,2 мільёна;**
***Праваслаўныя – не славяне,*** *але праваслаўнай традыцыі:*
Румынія (раманская мова) – **22,3 мільёна**
Малдова – **4,4 мільёна.**

# «Комбинация» из двух комбинаций

**Константин СКУРАТОВИЧ**

Постановлением за № 458 от 31 марта Совет Министров РБ утвердил прожиточный минимум в среднем на душу населения и для основных социально-демографических групп.

Этот документ, с «точностью до миллиметра» определяющий минимальную цену нашего земного бытия, дает богатую пищу пытливому уму. Так, любой муж, вооружившись калькулятором, может указать жене на то, что ее материальные претензии выглядят необоснованными и разорительными для семейного бюджета.

По утвержденным правительством нормам, женщина трудоспособного возраста не может требовать от государства (а, значит, и от семейного бюджета) покупки более чем 7 пар колготок из эластика в год. Потому что, если она будет неаккуратно обращаться с этим деликатным предметом гардероба, то такие расходы подорвут ее гарантированное государством право иметь 2 ночные сорочки, каждой из которых правительством определен трехлетний срок службы, или две комбинации.

Этот, как считается, научно обоснованный и просчитанный минимальный ассортимент явно не рассчитан на форс-мажорные обстоятельства и здорово напоминает знаменитый тришкин кафтан: в случае, допустим, порчи «пальто зимнего», которое должно служить хозяйке восемь лет, ни на каких колготках не сэкономить. Вообще вся зимняя верхняя одежда работающей, подчеркнем, женщины (юбки, блузки, пальто, спортивные костюмы, плащи) должны носиться от 5 до 8 лет.

Минимально прожиточный гардероб белоруса тоже спартанский и от женского отличается разве наличием брюк в «костюмной группе». Человек «не бедный» (прожиточный минимум — официальная черта бедности) должен иметь 2 пары брюк (полушерстяных и из смесовой ткани), костюм-двойку, 3 сорочки, джемпер или свитер и спортивный костюм. Из верхней одежды рекомендованы 2 куртки (по сезону) и плащ, из белья — майка в количестве 5 штук, 7 пар носков (срок службы у носков — годичный). У «настоящего мужчины» должны быть: ботинки зимние или сапоги на утепленной подкладке — пара на 5 лет, полуботинки демисезонные — 2 пары на 5 лет, кроссовки — 1 пара на 3 года и резиновые сапоги — пара на 10 лет.

Сверху, как говорится виднее. Приходится верить, что взрослому мужчине в год для бритья понадобятся всего две упаковки лезвий: соскребать щетину, конечно, можно. Но только вместе с кожей и сквозь слезы.

А кто, собственно, сказал, что жизнь дается человеку для радости? Что один раз и мучительно больно — этому еще в школе учили. ■

# Другая кроў

## Лунінец не пагаджаецца з афіцыйнай версіяй гэтай трагедыі

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**



Уладзімір са старэйшай дачкой Мілай

Трагедыя, што адбылася на Вялікдзень у Лунінцы, здрыганула не толькі гэты ціхі палескі гарадок, але і ўсю Беларусь. П'яны салдат Ігар Андрэеў збег з часці і забіў дваіх чалавек, а потым застрэліўся. Першым ад яго рукі загінуў 19-гадовы Станіслаў Бандарчук, які служыў у той жа вайскойвай часці № 15629. Другой ахвярай стаў 26-гадовы жыхар Лунінца грамадзянін Украіны Уладзімір Кузюбердзін. «Адна з куляў смяротна параніла прахожага», — напісала пра смерць Кузюбердзіна вядомая газета. Між тым, цяпер высвятляецца, што Уладзімір у гэтай трагічнай гісторыі ніяк не падыходзіць на ролю выпадковага мінака. Паводле сведкаў, ён свядома пайшоў насустрач небяспецы. «Трэба ратаваць людзей», — апошняе, што чулі ад Уладзіміра Кузюбердзіна людзі, якія апынуліся побач.

Цяпер немагчыма даведацца, што Андрэеў збіраўся рабіць у Лунінцы, навошта імчаўся ў горад з аўтаматам і двума ражкамі патронаў. Кажуць, салдат «сарваўся» на вяселле сваёй былой сяброўкі, хацеў адпомсціць за тое, што не дачакалася. Праўда, якое вяселле на Вялікдзень? І да таго ж, навошта было забіваць Бандарчука, з якім знаўся задоўга да службы. Між тым, Андрэеў застрэліў Станіслава нават з асалодай: паласнуў з «калашнікава» ў спіну, а потым дабіў стрэлам пад сківіцу. У бронекамізэльцы, з аўтаматам наперавес, ён, пэўна, выглядаў на шашы, як Рэмба. Та-та-та. Машына спынілася. Пасажыры, як мурашы, разбягаюцца ў бакі. З «Жыгулямі» ён упраўляўся, як з аўтаматам. Машыну заносіла на паваротах, але ён не скідваў газу. Толькі раптоўна кіно скончылася: праз вуліцу ішоў міліцыянт, і нага сама ўдарыла па педалі тормаза. Скрыгат, удар, машына на тратуары. Ашалелы, ён выскоквае і пачынае «паліваць» па жывых мішэнях — спачатку па міліцыянту, потым па вадзіцелі КамАЗа, веерам — у бок універмага, дзе лезуць пад лаўкі нейкія жанчыны, потым вышэй, па дамах.

Замяніўшы ражок, Андрэеў ідзе насустрач белай «сямёрцы». І гэтая машына паслухмяна спынілася перад ім. Раптам з правага боку ўзнікае постаць чалавека ў белай кашулі. «Супакойся, супакойся», — чуе Андрэеў. Імгненне — ствол зноў дыміцца, адрыгнуўшы чатыры кулі, а чалавек падае на асфальт.

...Яшчэ праз некалькі секундаў Андрэеў націсне спускавы кручок у апошні раз. Другая пляміна на асфальце большых памераў і гусцейшая — ягоная. З чэрапа павыбівала кроў і мазгі.

Уладзімір Кузюбердзін працаваў ва універмагу грузчыкам крыху больш месяца. Узялі яго на падмену чалавека, які сышоў у адпачынак, але Валодзя хутка стаў у магазіне сваім. Ён быў старанны і акуратны, што асабліва цэніцца ў жаночым калектыве. У той дзень прыйшоў на працу ў белай кашулі, і гэтаму не здзівіліся. Вялікдзень! А што грузчык — дык ён рознай працай быў заняты. «Перад тым, як пачуліся стрэлы, Валодзя дапамагаў гандляваць на зале яблыкамі. Ветлівы быў такі, жартаваў з пакупнікамі, — расказвае прадаўшчыца Людміла Дзем'яновіч. — Пачаліся стрэлы, я бліжэй усіх да акна была, убачыла салдата з аўтаматам, ад страху рукі задрыжэлі. А тут Валодзя кажа: «Ён людзей пазабівае, яго трэба спыніць!» — «Ты што? Куды? Там кулі!» А ён ужо не слухае, выбягае...»

Сведкі лічаць, што спачатку Уладзімір не збіраўся набліжацца да салдата. Ягонай мэтай было вывесці з зоны агню жанчыну з маленькім хлопчыкам, якія хаваліся за вулічным прылаўкам. Гэта ўдалося. Людміла Антановіч, на дапамогу якой кінуўся Кузюбердзін, кажа: «Кулі свісцяць, я ўжо ні пра што думаць не магу. Тут з'яўляецца чалавек у белай кашулі, бярэ на рукі майго Алёшу і загадвае бегчы да магазіна. Апрытомнела я ўжо ў зале. Алёша побач, а чалавека таго няма. Памятаю, цішыню пачула, а потым зноў стрэлы».




1. Адсюль радавы Ігар Андрэеў пачаў абстрэл Лунінца. 2. У гэтым універсаме працаваў Уладзімір Кузюбердзін. 3. Месца, дзе ад куль хавалася Людміла Антановіч з сынам Алешам. 4. Тут сышліся «маршруты» Андрэева і Кузюбердзіна.

Віктар Курыловіч назіраў за падзеямі з балкона дома насупраць: «Я Валодзю добра ведаў, мы з ім разам працавалі, я таксама грузчык ва універсаме. Толькі змена не мая была. Пакуль Валодзя жанчыну правёў да магазіна, салдат страляніну спыніў. Пастаяў, паглядзеў па баках, заўважыў белыя «Жыгулі» і пайшоў насустрач. Валодзя гэта ўбачыў і, відаць, вырашыў скарыстацца момантам. Магчыма, хацеў салдата супакоіць — ніхто ж тады яшчэ не ведаў, што той ужо забіў чалавека. Толькі падысці блізка не ўдалося. Ледзь ступіў з тратуара на дарогу, як салдат стрэліў, нават не развярнуўся. Я потым на Валодзю глядзеў, не верылася, што насамрэч усё так адбылося. А салдат раптам увесь здрыгануўся, раздаўся стрэл — і ён таксама ляжыць побач. Прайшло крыху часу — міліцыя з'явілася, за ёй хуткая дапамога. Валодзю павезлі яшчэ жывога, але, на жаль, да бальніцы жывым не давезлі».

Яны развіталіся раніцай, у шэсць гадзінаў. Калі б Святлана ведала, што бачыць мужа ў апошні раз, павісла б на шыі і не разамкнула б рукі. Сэрца ёй нешта падказвала, але велікодная ноч была такой цяжкай! У пяць раніцы вярнуліся яны з царквы, куды хадзілі свяціць пасху. У тую ж, дарэчы, Кажан-гарадоцкую царкву, дзе шэсць гадоў таму яны з Валодзем вянчаліся. Валодзя быў не тутэйшы, з далёкай Піцунды, што на Чорным моры. З іншым, паўднёвым менталітэтам. Яму па Палессі спачатку было не вельмі ўтульна, але паступова ён палюбіў гэтых людзей і пранікся павагай да іх звычак. Казаў, такіх жанчын, з такой дабрынёю, як у Беларусі, няма нідзе. І мужыкоў мясцовых цаніў. За цярплівасць і працавітасць. Не любіў, праўда, калі хто чапляўся з прапановамі выпіць гарэлкі. Тым больш, калі дражнілі — чаго ты не п'еш, жонкі баішся? Ды не баюся, але навошта піць? Святлана з Валодзем мірна пражылі шэсць гадоў. Двух дачок ужо мелі. Хаты сваёй, праўда, не было. Жылі ў інтэрнаце. Яшчэ год — і атрымаў бы Валодзя беларускае грамадзянства, а там і працу знайшоў бы больш прыбытковую. Ён нават марыў пайсці ў міліцыю, але без грамадзянства там бы не ўзялі.

«Яшчэ крыху побач з табой паляжу», — сказаў ён у тую раніцу і моцна-моцна яе абняў. Потым апоўдні тэлефанаваў з магазіна, казаў, увечары будзем святкаваць усе разам, хай яна не пакідае Мілу і Яну ў бабулі, а забірае з сабой — ён з аўтобуса сустрэне. Яна ўжо пачала збірацца, як раздаўся званок — звaніла хросная з Лунінца, з ёй чамусьці размаўляць не стала, прасіла маці паклікаць. Маці ўзяла трубку і раптам заплюшчыла вочы. «Нейкі салдат страляў у Валодзю. Трэба ехаць у рэанімацыю». Вось і скончылася яе шчасце.



Маці Ніна Іванаўна Кузюбердзіна.

Кузюбердзіных было трое — Ніна Іванаўна і два сыны-блізняты Валодзя і Сярожа. У шаснаццаць гадоў хлопцы даведаліся, што мама іх усынавіла, узяўшы гадавалымі з дома дзіцяці. Таму і перабраліся з Адэсы ў Піцунду, дзе пра малых ніхто не ведаў. Ніна запісала сыноў грузінамі, бо колерам валасоў былі чорныя. З твару тыповыя цыганяты, яны колькі разоў ставілі ў тупік людзей, якія цікавіліся іх радаводам. «Мы грузіны, наш папа быў матрос, ён загінуў, мы бачылі на караблі вугалок яго памяці», — сыпалі інфармацыяй, як з кулямёта. Гэта пасля таго, як хлопцы ўпершыню патрапілі на даведку аб усынаўленні, Ніне Іванаўне прыйшлося арганізаваць для іх «экскурсію» на карабель. Было ім тады па дзесяць гадоў. На караблі малым зрабілі падарунак — кожнаму далі па цяльняшцы. Але праз шэсць гадоў давялося ім усё расказаць. «Паплакалі разам і больш да гэтай тэмы не вярталіся. Ты наша маці, бо нас вырасціла, заявілі мне сыны, — узгадвае Ніна Кузюбердзіна. — А вы ведаеце, як на Каўказе ставяцца да маці».

Дырэктар універсама Лілія Міхайлаўна Шарай лічыць, што Уладзімір Кузюбердзін учыніў подзвіг: «Ён не толькі жанчыну з хлопчыкам выратаваў, ягоная смерць спыніла салдата. Я лічу, той убачыў, што нарабіў, да яго сумленне вярнулася і ён застрэліўся». Некалькі інакш падзеі выглядаюць са словаў лунінецкіх міліцыянтаў. Намеснік начальніка раённай міліцыі маёр Уладзімір Вішнявецкі першы з афіцэраў разбіраўся ў абставінах трагедыі і пераканаўся, што гэта ягоныя падначаленыя раней за іншых заслужылі права героямі звацца. «Міліцыянт Кацуба не ўцякаў ад бандыта, ён толькі схаваўся за дом. А што было рабіць? Яму падзяку трэба вынесці. За тое, што прыцягнуў на сябе ўвагу бандыта і даў магчымасць людзям схавацца», — упэўнены маёр. Паводле ягоных словаў, мужна павёў сябе і нарад пад кіраўніцтвам старшыны Касцюкевіча. «Гэта яны блакіравалі бандыта. Той пабачыў, што бегчы няма куды, і застрэліўся». Вішнявецкі, праўда, не выключае, што грузчык з магазіна таксама аказаўся сапраўдным мужчынам, але ў гэтым эпізодзе «яшчэ трэба разабрацца». Як і ў паказаннях сведкаў. Большасць з іх чамусьці сцвярджае, што нарад міліцыі прыехаў да магазіна, калі Андрэеў ужо застрэліўся. І што першы міліцыянт насамрэч уцякаў з месца здарэння, як з пажару, і вярнуўся, калі ўжо ўсё без яго «патухла». Але... «Здараецца, людзі бачаць адну і тую ж падзею па-рознаму. Следства разбярэцца».

Калі сапраўды ў гэтай гісторыі будзе пастаўленая кропка, адказаць цяжка. Пэўна, на некаторыя пытанні адказы знойдуцца хутка. Напрыклад, чаму ў каравуле стаяў п'яны салдат? Зразумела, чаму — свята, знаёмыя з горада прынеслі «пачастунак». Чаму пра знікненне вайскоўца з аўтаматам айцы-камандзіры даведаліся толькі праз некалькі гадзінаў і нават не паведамілі ў горад? З гэтым разабрацца будзе не цяжэй. А вось як быць з сумленнем людзей у форме, якія свой «манеўр за вугал» называюць «прыцягненнем ўвагі»? І ўвогуле, што скажуць людзі пра ўладу, калі ўбачаць, як яна прыпісвае сабе подзвігі загінулых? ■



Куля з аўтамата Андрэева прабіла шыбу ў кватэры Валерыя Сацкевіча.



Алёшу Антановіча Уладзімір на руках вынес з зоны агню.

*P.S. Калі матэрыял быў гатовы, нам патэлефанавалі з Лунінца. Паведамілі, што раённыя ўлады вырашылі аплаціць выдаткі на помнік Уладзіміру Кузюбердзіну і па магчымасці паскорыць выдзяленне кватэры для сям'і загінулага. Дапамагаць ёй бярэцца і раённая арганізацыя воінаў-інтэрнацыяналістаў.*

# Ізаляцыя

## Успаміны з турэмнага жыцця

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

*(Урыўкі з кнігі)*

Ужо ў пакоі, які суцэльна быў абкладзены кафельнаю пліткаю (пасля я зразумеў, што гэта для таго, каб лягчэй змывалася кроў), нас выстраілі ўздоўж сцяны і загадалі не абарочвацца. Цікаўнасць перасіліла, і я азірнуўся, каб убачыць абстаноўку. Праз імгненне два цяжкія ўдары па спіне і нагах кінулі мяне на падлогу, і пачуўся амаль што рык: «Я же тебе, ублюдок, приказал не оборачиваться!» Давялося ўзняцца і, хістаючыся ад знясілення (усё ж пятыя суткі галадоўкі), уткнуцца лбом у сцяну. А за спіною, відаць, з'явіўся начальнік змены, бо ўся ахова перайшла з «ты» на «вы». Тым жа рыкам было зроблена афіцыйнае паведамленне (цытую): «Вы прибыли в Жодинский централ «Чорны Бусел». Здесь вы — не люди, и мы сделаем все, чтобы вы почувствовали это. Без команды — не поворачивать даже головы, передвигаться только бегом с заложенными за спину руками, держать друг от друга расстояние два метра. Если к вам обращаются — отвечать полностью ФИО, дату рождения, родителей, жен, статьи, по которым содержитесь под стражей. Предупреждаю — за запинку будем бить, за разговоры между собой — будем бить. Если кто вздумает спорить, живым до камеры — не доберется! Начали!»

Далей пачаўся прыём. Начальнік змены называў прозвішча, а вязень, якога выклікалі, — выходзіў і казаў свае дадзеныя. Ад хвалявання амаль усе запінаўся, і іх жорстка збівалі. Калі дайшла чарга да Вадзіма Лабковіча, начальнік змены зрабіў паведамленне: «Внимание! Сегодня на этапе — бэнээфовец, любители рвать флаги. Отнеситесь к ним со всем вниманием, пожалуйста!» Далей Вадзіма некалькі разоў ударылі, было чутно, як ён упаў, за што яго тут жа «перацягнулі» гумавою дубінкай. Пасля гэтага яго павялі. Мяне выклікалі амаль у самым канцы. Перш чым назваць свае дадзеныя, я палічыў патрэбным паведаміць, што я на галадоўцы. Твар міліцыянта пачырванеў, і ён нанёс мне два ўдары ў грудзі. Я ўтрымаўся на нагах і паспрабаваў без запінкі назваць свае дадзеныя. На артыкулах Крымінальнага кодэкса мяне замкнула, і з усіх бакоў пасыпаліся кулакі, так што давялося стукнуцца лбом аб падлогу. Спярша прачнулася незразумелая злосць, хацелася проста кінуцца на ахоўнікаў, але яны, відаць, адчуўшы гэтае жаданне, адышлі на пару метраў, даўшы мне магчымасць узняцца. «Так что, флаги любишь? Ну-ка, хлопцы, нарисуйте ему на спине флаг!» Міліцыянты выстраіліся ланцугом па абодва бакі калідора, па якім мне трэба было перабегчы, і дасталі дубінкі. Набраўшыся моцы і дзякуючы заняткам спортам, я ірвануўся і прабег так, што ніводная з гумавых палак нават не зачапіла мяне. Але радавацца было рана, мне загадалі вярнуцца і паўтарыць паход па тым жа маршруце — павольным крокам. Пасля гэтай «вандроўкі» на спіне сапраўды ўтварыўся бел-чырвона-белы сцяг, які назаўтра, праўда, змяніў чырвоную паласу на скуры на сіня-чорную.

Ледзь «даклыпаўшы» да «адстойніка» (камера, дзе вязняў утрымліваюць да рассартоўкі па іншых камерах), я ў знясіленні зваліўся там на рукі зэкаў, якія дапамаглі мне не страціць прытомнасць. Але ў вачах было чорна, і калі праз пяць хвілінаў мяне выклікалі на аналіз крыві, я ішоў не бачачы нічога перад сабою. Каля медкабінета я абапёрся рукамі на сцяну, за што тут жа атрымаў некалькі ўдараў па нырках, і гэта было апошняе, што я памятаю. Далей, па расповядах будучых сукамернікаў, я мехам зваліўся на падлогу і, нягледзячы на ўдары ботамі, ужо не ўздымаўся. Выбеглі дактары і пад рукі зацягнулі мяне ў кабінет, паклалі на ложак. Раз-пораз з кабінета былі чутны крыкі: «Пульс не прощупывается! Давление падает! Коли быстрее!»

Як даведаўся пасля ад доктара, у мяне проста спынілася сэрца. Недзе праз гадзіну я прыйшоў у прытомнасць і ўбачыў перад сабою чалавека ў белым халаце, які сказаў мне: «Шидловский, я про вас читал, выходите немедленно из голодовки, иначе через неделю вас тут похоронят». Больш я гэтага доктара не бачыў, але дасюль удзячны яму за гэтыя некалькі словаў падтрымкі, якія ўпершыню пачуў з пачатку тэрміну...

Пасля, да 4-х гадзінаў раніцы, мне калолі нешта ў вену, давалі нюхаць нашатыр і хлопалі па шчоках. Затым прыйшоў начальнік медчасткі і спытаў, ці буду я працягваць галадоўку. Пачуўшы адмоўны адказ, загадаў: «Все, в больницу его».

Каб нечым заняць зэкаў, міліцыянты прымушаюць іх рабіць уборку, заліваючы падлогу халоднай вадой. Робіцца гэта звычайна так. Усіх вязняў выганяюць на калідор і ставяць на «расцяжку». «Расцяжка» — гэта калі рукі ўпёртыя ў сцяну ў паўметры ад падлогі, а шырока расстаўленыя ногі ўпіраюцца ўжо ў падлогу. Такая пазіцыя цела вельмі стамляе, і зэкі часта падаюць на падлогу. Тады іх проста ўдарамі ног прымушаюць заняць «исходную». У гэты час адзін з ахоўнікаў адчыняе кран з халоднай вадой і накіроўвае струмень на падлогу. Вада льецца, пакуль не дасягне вышыні парога. Тады зэкаў прымушаюць зняць абутак і босымі нагамі па бетоннай падлозе, на 7—8 сантыметраў у ледзяной вадзе, стаяць у камеры. Натуральна, што ўсе ўласныя рэчы, якія захоўваюцца заўсёды пад нарамі, вымакаюць дазвання. Пасля ахоўнік загадвае ўзяць свае кубкі для гарбаты і прымушае імі чэрпаць ваду, бруд з падлогі і выліваць у прыбіральню...

Аляксей Шыдлоўскі ў зале суда пад час абвяшчэння прыгавору.

Фота IREX/ProMedia

### Голад

Голад — гэта калі глядзіш на карычневую вышчарбленую сцяну і табе здаецца, што гэта каўрыжка. Голад — гэта калі адразу пасля вячэры пачынаеш думаць аб снеданні, а нязграбна рассыпаныя кімсьці па стале крошкі хлеба — выклікаюць абурэнне так распарадзіўшымся ім гаспадаром. Голад — гэта, калі марыш, што з заўтрашняга дня пачнуць даваць удвая большую пайку. Голад — гэта, калі ў сне чуеш, як школьная настаўніца прапануе есці ў сталоўку падмацавацца манкаю, і тут жа прачынаешся ад таго, што «баландзёры» адчыняюць «кармушку», каб перадаць абед. Паступова да голаду прызвычайваешся. Адбываецца гэта шляхам змяншэння страўніка, і ўжо пасля выхаду на волю ты не зможаш есці столькі, як раней. Так я напачатку тэрміну часта марыў, як прыйду дадому, як сяду за стол і пачну доўга-доўга есці. А зараз выйшаў і адчуў, што зусім нічога не хачу. Зусім!

### Першае спатканне

28 кастрычніка, калі ўжо пайшоў трэці месяц знаходжання пад вартай, следчы дазволіў маёй маці першае спатканне са мною, і вось пасля доўгіх бетонных калідораў ахоўнік дазваляе дастаць з-за спіны рукі і падняць вочы. Мама! Мілая мая мама! Усяго 2 месяцы я цябе не бачыў, а здаецца — цэлую вечнасць. Думкі імчаць у маёй галаве, а сказаць нічога не магу, ад псіхічнай напругі да горла падкаціў ком і спыніўся там, не даючы выхаду думкам. Толькі б не заплакаць! Трымайся, ты ж мужык! Мама доўга распавядае пра дом, пра брата і бацьку, але гэта яшчэ больш наганяе на мяне тугу. Бачачы гэта, яна пераходзіць да справаў і расказвае пра мітынгі, пікеты і збор подпісаў у маю падтрымку. Гэта якраз тое, што мне трэба. Адразу з'яўляецца нейкі гонар за сябе і сілы змагацца надалей. Гэта тое, што трэба любому, які сядзіць «за палітыку» — ведаць, што цябе памятаюць не толькі родныя, але і сябры па змаганні, што ладзяцца акцыі ў тваю падтрымку...

### Валадарка. Мінск

«Валадарка» сустрэла абыякавасцю, цішынёй і паўп'янымі ахоўнікамі. Па жодзінскай звычцы ўтаперыўшыся вачыма ў сцяну і склаўшы рукі за спіну, пачуў збоку паблажлівы смех і пытанне: «Наверное, из Жодино?» Абярнуўшыся — не паверыў вачам, сусед справа, паклаўшы руку ў кішэню, спакойна размаўляў са мною, і пры гэтым на яго не сыпаліся ўдары, як у Жодзіна. «Ты отвыкай, тут режим другой...» І гэта адчувалася. За суткі, праведзеныя ў адстойніку да размеркавання па камерах, шмат чаму давялося здзівіцца. На вячэровай праверцы, пры ўваходзе міліцыянта, я па звычцы ўскочыў і ўжо набраў паветра, каб паздароўкацца, калі заўважыў, што астатнія толькі пападымалі галовы, каб паказаць, што жывыя. Міліцыянт моўчкі падлічыў усіх і выйшаў. Мяне перакінулі ў камеру для асуджаных № 21 — у падвал следчага ізалятара. Камера на 30 чалавек, у якой заўсёды знаходзілася не менш за 50. Сюды ніколі не пранікала дзённае святло і ніколі не трапляла свежае паветра. Паўзмрок, чорныя сцены і гніль у паветры — усё гэта надавала камеры такую атмасферу, што многія вязні пакрыху вар'яцелі. Праз тыдзень знаходжання тут, з-за авітамінозу і недахопу кіслароду, я, як і астатнія сукамернікі, пачаў гніць. Гніць у прамым сэнсе гэтага слова. На целе, асабліва на нагах, з'яўляліся маленькія ранкі, якія проста не зажывалі, а з часам станавіліся яшчэ большымі. Ды настолькі, што ў гэтыя выгніўшыя адтуліны ў целе ўлазіў на паўсустава мезенец...

### Пасля

А пасля быў фэст, наладжаны ва Управе БНФ, некалькі дзесяткаў інтэрв'ю газетчыкам, тэлевізіёншчыкам і супрацоўнікам радыё, сустрэчы з сябрамі, старымі знаёмымі. Мая «пасадка» стала для іх праверкаю. Хтосьці адмовіўся, што калісьці ведаў мяне, хтосьці наадварот — падтрымліваў як мог, а хтосьці паставіўся абыякава. Ва ўсякім разе, цяпер я ведаю, каму ціснуць руку, а каму не, і ад каго чаго чакаць. Мяне адлічылі з БДУ і выгналі з інтэрната. Аднак — свет поўны добрымі людзьмі, зараз я маю дзе жыць, маю працу і з восені зноў пачынаю вучыцца. Усё лепшае павінна быць наперадзе, бо столькі дрэннага ўжо засталося ззаду. Вера ў лепшае была са мною за кратамі, і яе ніколі нельга губляць, бо лепшае — яно ўсё роўна прыйдзе... ■

*Поўнасцю ўспаміны будуць надрукаваныя ў праваабарончым бюлетэні «Права на волю»*

## СПОРТ

# Когда женщины плачут...

**Міхась ПОТАПОВИЧ**

Женщины у нас всегда впереди мужчин, особенно в теннисе, где вслед за звездой Наташи Зверевой восходит, но никак не засветит в полную силу звездочка Ольги Барабанщиковой. И все же мы надеялись, что когда два светила соберутся вместе, будет так ярко, что от этого зажмурятся соперницы белорусской сборной по матчу Кубка федераций — теннисистки из Чехии Кветослава Хрдличкова и Дениса Хладкова. Тем более, что третья ракетка мира Яна Новотна ехать в Минск отказалась, несмотря на то, что спонсоры предлагали ей за игры в белорусской столице 50 тысяч долларов.

Новотна, в отличие от Зверевой, оказалась провидицей. Она просчитала, что переход с грунтовых кортов, на которых она играет сейчас турниры, на минскую синтетику, где отскок мяча значительно быстрее и сильнее, может обернуться поражением. Белоруски этому значения, видимо, не придали и с треском проиграли малоизвестным гостьям из Чехии — 1:4. Единственное очко в парном поединке третьих-четвертых номеров принесли белорусской команде Татьяна Пучек и Надежда Островская. Результат матча стал сюрпризом не только для проигравших, но и для победителей.

Удивило многое, особенно поведение Наташи Зверевой, теннисистки, которая уже добрый десяток лет относится к мировой элите. Белорусские журналисты давно привыкли к, мягко говоря, странностям Наташи. Общеизвестно, что дома, в Минске, она почти не дает интервью. На пресс-конференциях, которые являются обязательным атрибутом матчей Кубка федераций (командного первенства мира), Зверева сидит, не глядя на журналистов, упорно рассматривая свои кроссовки и теребя на них шнурки. Всем своим видом, вольно или невольно (что одинаково плохо) Наташа демонстрирует, что ей все это глубоко фиолетово, что все должны быть счастливы одним фактом ее согласия играть за команду своей страны и возможностью ее созерцать. На корте, особенно в начале первой встречи — с Хладковой — небрежность просвечивала слишком явно. Зверева настроилась на победу малой кровью. И поначалу ее ожидания оправдывались, она вела в счете, заставляя юную оппонентку бегать за мячом по углам корта. Но недолго музыка играла. Хладкова перестала нервничать и усилила игру, терять то ей было нечего. И тут оказалось, что белорусской звезде светить нечем.

С Хрдличковой, теннисисткой более высокого класса, чем Хладкова, Наташа играла предельно собранно, боролась, но чешка была сильнее. В минуты, когда спортсменки отдыхали между геймами, глядеть на теннисистку сборной Беларуси Наталью Звереву и тренера сборной Беларуси Марата Зверева было грустно и смешно. Марат Николаевич — отец Наташи. Но этот независимый в суждениях человек рядом с именитой дочерью казался запуганным ягненком. Он очень переживал за свое чадо и как тренер, и как отец, но обратиться к дочери, чтобы поддержать ее в трудную минуту, не смел. А когда попытался сделать это, получил гневную отповедь.

Фота IREX/ProMedia

Оля Барабанщикова — полная противоположность Зверевой. Она дарит свои улыбки, не скупясь, всем подряд, словно говоря: я вам рада, я люблю вас, у меня все хорошо, и у вас все будет хорошо — девушка-праздник! Это даже мешает ей сосредоточиться во время игры, потому что там надо, по крайней мере, к соперницам относиться жестко. Потерпев на глазах родной публики два оглушительных поражения, Оля потом, в кулуарах, впала в кризисное состояние. Впрочем, взяла себя в руки и нашла в себе силы снова заулыбаться.

Оказывается, и Зверевой был вовсе не безразличен исход матчей. После двух проигрышей вроде бы твердокаменной Наташи текли слезы. Женщины плачут, когда им больно. Может быть, глядя в будущее, это — самое обнадеживающее из всего происшедшего в матче Беларусь — Чехия. ■



Ад куляў забойцы загінуў шчыры патрыёт сваёй Бацькаўшчыны
**Аляксей ШПАК**
Выказваем спачуваньне родным і блізкім.
Сябры

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 536 Нумар падпісаны ў друк 22/04/99 (15:00) Наклад — 21.410